**№97 (1910)**

Аўторак, 1 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +17...+19, сонечна, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +15...+17, сонечна, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Крэдытная лінія на закупку камбайнаў і трактароў

Крэдытны камітэт ААТ "Белаграпрамбанк" прыняў рашэнне аб адкрыцці крэдытнай лініі для выдачы доўгатэрміновых ільготных крэдытаў арганізацыям, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку, на закупку зерне-, кормаўборачных камбайнаў і трактароў на агульную суму 10,3 млрд. рублёў.

Плануецца, што крэдыты будуць выдзелены пад палову стаўкі рэфінансавання Нацбанка Беларусі, якая зараз складае 22 працэнты гадавых.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Максім Мірны выйшаў у чвэрцьфінал

Беларус Максім Мірны і індыец Махеш Бхупаці выйшлі ў чвэрцьфінал парнага разраду Адкрытага чэмпіянату Францыі па тэнісе. У трэцім раундзе яны абыгралі харвацкі дуэт у складзе Марыё Анчыча і Івана Любічыча — 6:2, 6:2.

У наступным раундзе беларуска-індыйскі дуэт сустрэнецца з Карстэнам Браашам (Германія)/Саргісам Саргсянам (Арменія), якія перамаглі ў 1/8 фіналу палякаў Марыюша Фірстэнберга/Марціна Маткоўскага — 6:7, 6:1, 8:6.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Восем чалавек загінулі падчас пажараў за мінулы тыдзень

На працягу тыдня пажарамі знішчана таксама 40 пабудоў, 2 адзінкі тэхнікі. Агнём пашкоджана 129 пабудоў, 14 адзінак тэхнікі. Прычынены ўрон склаў 134,4 млн. рублёў.

З пачатку года ў Беларусі адбылося 4509 пажараў. У выніку пажараў загінулі 535 чалавек, у тым ліку 28 дзяцей. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года гібель людзей на пажарах скарацілася на 12 працэнтаў, а колькасць пажараў — на 16 працэнтаў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Займаліся вырабам падробных грашовых купюр ЗША

У горадзе Жабінка (Брэсцкая вобласць) супрацоўнікі крымінальнага вышуку мясцовага РАУС затрымалі мясцовага жыхара, у якога канфіскавалі 18 фальшывых грашовых купюр ЗША рознага наміналу.

Папярэдне ўстаноўлена, што купюры з выкарыстаннем камп'ютэрнай тэхнікі вырабілі два 17-гадовыя жыхары Брэста. У аднаго з іх пры вобыску канфіскаваны манітор, сістэмны блок, прынтэр і пяць вінчэстэраў. Падазроныя змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Сутыкнуўся электрацягнік з мікрааўтобусам

Раніцай 30 мая на неахоўным пераездзе Бяроза-Картузская — Аранчыцы паблізу вёскі Кабакі (Бярозаўскі раён) адбылося сутыкненне электрацягніка, што накіроўваўся з Баранавічаў у Брэст, з мікрааўтобусам "Фольксваген Транспорцер".

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле ўнутраных спраў на транспарце УУС Брэсцкага аблвыканкама, кіроўца выехаў на чыгуначныя пуці пры працуючай светлавой і гукавой сігналізацыі. За рулём аўтамабіля знаходзіўся жыхар вёскі Малеч Бярозаўскага раёна і тры пасажыркі-пенсіянеркі 65—78 гадоў. Усе яны ехалі на набажэнства ў вёску Горск з нагоды свята Сёмухі. У выніку сутыкнення кіроўца і жанчыны загінулі на месцы.

Рух цягнікоў быў затрыманы амаль на паўтары гадзіны.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Дастаткова не прайграць

На маладзёжным чэмпіянаце Еўропы па футболе, што праходзіць у Германіі, зборная Беларусі працягвае змагацца за пуцёўку на Алімпійскія гульні ў Афіны, куды трапяць 3 лепшыя каманды еўрапейскага першынства. Каб прайсці ў паўфінал, падапечным Юрыя Пунтуса дастаткова не прайграць 1 чэрвеня зборнай Сербіі і Чарнагорыі ў заключным матчы папярэдняга турніру.

Пасля двух тураў наперадзе Беларусь — 4 ачкі. Далей ідуць Італія, Сербія і Чарнагорыя — па 3 і Харватыя — 1.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Дэмаграфічны крызіс Талачыншчыны

Штогод усё больш несуцяшальнай робіцца дэмаграфічная сітуацыя ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці. За студзень—красавік бягучага года ў раёне памерлі і загінулі пры розных абставінах 270 чалавек, а нарадзілася толькі 94.

Летась на Талачыншчыне, якую нельга назваць самым бедным рэгіёнам вобласці, развіталіся з жыццём 729 чалавек, з іх 22 скончылі самагубствам, 12 загінулі ў дарожна-транспартных здарэннях, 9 чалавек сталі ахвярамі забойцаў і агрэсіўных нападаў, шасцёра патанулі.

Сацыёлагі лічаць, што сёлета ў раёне колькасць памерлых і забітых можа скласці каля 800 чалавек — амаль на 200 больш, чым летась.

## Электронная «халява»

Амаль 30 мільёнаў рублёў страт за кароткі час панёс Віцебскі завод радыёдэталяў, які падрадзіўся пастаўляць камплектуючыя дэталі расійскай фірме "Мікраэкспертныя сістэмы" з сыравіны заказчыка.

І ўсё б добра, калі б гэтыя вырабы не адпускаліся за мяжу па штучна заніжаных цэнах — дзешавей за сабекошт. У выніку гэтай і шэрагу іншых выгадных знешнеэканамічных аперацый дэбіторская запазыка за аказаныя паслугі дасягнула 800 тысяч расійскіх рублёў. А выручка, якая ўсё ж атрымалася, пералічана з перавышэннем тэрмінаў на 98 дзён.

Даўно вядома, што знікненне грошай у адным месцы выклікае іх з'яўленне ў іншым. Таму не выключана, што экспартныя страты віцебскіх вытворцаў электронікі абярнуліся выгадай для пэўных асоб не толькі ў Расіі, але і ў нас. Над тым, хто нагрэў рукі на стратным экспарце, цяпер ламаюць галовы спецыялісты Камітэта дзяржкантролю.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**



## Курсы замежных валют на 1 чэрвеня

*Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 1 чэрвеня наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2.152 рублі
1 еўра — 2.630,71
1 расійскі рубель — 74,21
1 аўстралійскі долар — 1.539,86
1 балгарскі леў — 1.351,08
1 дацкая крона — 353,72
1 СДР — 3.160,90
1 ісландская крона — 30,13
10 японскіх іен — 196,67
1 казахскі тэнге — 15,73
1 канадскі долар — 1.581,36
1 кувейцкі дынар — 7.299,86
1 кыргызскі сом — 48,98
1 латвійскі лат — 3.996,29
1 літоўскі літ — 761,89
1 малдаўскі лей — 179,26
1 нарвежская крона — 320,46
1 польскі злоты — 565,87
1 сінгапурскі долар -1.267,60
10.000 турэцкіх лір — 14,35
1 украінская грыўна — 404,25
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3.948,60
1 чэшская крона — 83,12
1 шведская крона — 289,14
1 швейцарскі франк — 1.720,77
1 эстонская крона — 168,15

**ПРАТЭСТ**

# Хто «заказаў» «Народную волю»?

Шаноўныя чытачы!

Як Вы памятаеце, менавіта такі загаловак суправаджаў публікацыю ў "Народнай волі" 19 лістапада 2003 года. На вялікі жаль, мы вымушаны паўтарыць яго сёння. Таму што пытанне, якое мы адкрыта паставілі шэсць месяцаў таму, не згубіла сваёй вастрыні, а, наадварот, набыло лёсавызначальнае значэнне. І не толькі для "Народнай волі" — для ўсёй Беларусі.

Учора адбылося пасяджэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Суддзі **Г.Сакалоўская, В.Самалюк** (старшыня) і **М.Бабкоў** разглядалі пратэст на вызначэнне судовай калегіі Мінскага гарадскога суда па іску Я.Рыбакова да УП "Народная воля", М.Коктыш і Э.Язерскай. Судовая калегія ў складзе Н.Жупікавай, І.Цысік, Г.Глухоўскай змяніла рашэнне суда Ленінскага раёна г.Мінска, значна павялічыўшы суму кампенсацыі, якая падлягае выплаце Я.Рыбакову: для УП "Народнай волі" — з 10 мільёнаў рублёў да 50 мільёнаў, з М.Коктыш і Э.Язерскай — адпаведна кожнай з 1 мільёна рублёў да 3 мільёнаў рублёў.

Можна перагартаць увесь архіў Мінскага гарадскога суда (і не толькі яго), і не знойдзеш аналагічнай справы з падобным рашэннем. Вядома, ні УП "Народная воля", ні журналіст газеты М.Коктыш, ні экс-тэлевядучая Э.Язерская не маглі змірыцца з такой несправядлівасцю і не захацелі, каб Мінскі гарадскі суд "засвяціўся" ў Кнізе рэкордаў Гінеса, а таму звярнуліся з грунтоўнай скаргай у Вярхоўны суд краіны.

Мы лічылі і лічым, што і суд першай інстанцыі (суддзя **С.Хрыпач**), і калегія Мінскага гарадскога суда ў складзе Н.Жупікавай, І.Цысік, Г.Глухоўскай, і старшыня Мінгарсуда М.Ардзяка, да якога мы таксама звярталіся, неаб'ектыўна, павярхоўна, тэндэнцыйна падышлі да разгляду справы. Сёння гэта можна сказаць і ў дачыненні да калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь у складзе **В.Самалюк** (старшыня), **М.Бабкова** і **Г.Сакалоўскай.**

Але каб, як кажуць, па свежых слядах аналізаваць пастанову калегіі Вярхоўнага суда, мы нагадаем чытачам, з-за чаго разгарэўся сыр-бор, як разглядалася справа ў першай судовай інстанцыі, у другой... Паколькі графік здачы нумара ў друк не дазваляе працаваць над новым стылёвым варыянтам, далей мы абмяжуемся фрагментамі публікацыі ад 19 лістапада 2003 года.

## За што?

**Больш за два гады таму, 10 кастрычніка 2001 года, у "Народнай волі" пад рубрыкай "Бомонд" была апублікавана заметка аб былой вядучай Беларускага тэлебачання Элеаноры Язерскай "Пять пудов любви я гарантирую".**

*"...Моя передача не выходит из-за трех человек, которые умудрились превратить Белорусское телевидение в руины"*, — сказала тады Язерская.

І яна пералічыла прозвішчы тых адказных асоб (уключаючы, канечне, тагачаснага намесніка старшыні Белтэлерадыёкампаніі Рыбакова), па віне якіх усё гэта адбылося. Далей Язерская гаварыла аб тым, чым поўніліся калідоры тэлебачання ў той час: *"На совести этих людей сегодня, говорят, не только смерть юной и талантливой Юли Космачевой, но и экс-председателя телерадиокомпании, честнейшего и порядочнейшего человека Валерия Скворцова"*.

Канечне, не мелася на ўвазе прамое забойства кагосьці, падразумявалася, што тая цяжкая маральна-псіхалагічная атмасфера, якая панавала на паверхах кампаніі, адмоўна адбівалася на многіх супрацоўніках.

Пасля з'яўлення інтэрв'ю Элеаноры Язерскай ніякіх абвяржэнняў не было. Толькі праз два гады старшыня НДТРК Я.Рыбакоў вырашыў, што словы Язерскай, якія прыведзены вышэй, не адпавядаюць рэчаіснасці, *"ганьбяць дзелавую рэпутацыю, прыніжаюць гонар і годнасць"*. А таму вырашыў прыцягнуць да адказнасці газету "Народная воля", М.Коктыш і саму Э.Язерскую. У першапачатковым іску Рыбакоў прасіў прызнаць пералічаныя вышэй звесткі не адпавядаючымі рэчаіснасці, што ганьбяць гонар і годнасць і дзелавую рэпутацыю, абавязаць "Народную волю" апублікаваць абвяржэнне, а астатніх адказчыкаў — прынесці прабачэнні. І больш — ні слова.

## Суд першы

26 верасня 2003 года прэтэнзіі Рыбакова разглядаў суд Ленінскага раёна. Вёў справу суддзя **Сяргей ХРЫПАЧ**. За некалькі хвілін да пачатку судовага пасяджэння галоўны рэдактар "Народнай волі" **Іосіф СЯРЭДЗІЧ** у прысутнасці сведкаў удакладніў у Рыбакова, ці мае той намер выстаўляць дадатковыя патрабаванні да іску. Рыбакоў адказаў, што ніякіх дадатковых патрабаванняў не будзе. Толькі зыходзячы з гэтай "джэнтэльменскай" дамоўленасці і было вырашана прызнаць іск — маўляў, ці варта распачынаць шматмесячную цяжбу, калі кожны дзень трэба рабіць газету. Аднак у ходзе судовага пасяджэння прадстаўнік Рыбакова, які сядзеў побач з ім, нечакана шмат для каго з прысутных абвясціў дадатковыя матэрыяльныя патрабаванні: у якасці кампенсацыі маральнай шкоды спагнаць з "Народнай волі" 200 000 000 рублёў *(каля 100 тысяч долараў)*, а з Коктыш і Язерскай — па 20 000 000 рублёў *(каля 10 тысяч долараў з кожнай)*.

На абурэнне Іосіфа Сярэдзіча: *"Ягор Уладзіміравіч, як жа Вас разумець, мы ж толькі што ў калідоры дамовіліся?!"* Рыбакоў адказаў: *"Мы ўжо не ў калідоры, а ў зале суда"*.

Безумоўна, у такім выглядзе ніхто з адказчыкаў не стаў прызнаваць іск, тым больш што маральныя пакуты Рыбакова ніяк не былі абгрунтаваныя. Ды і не цягнуць яго пакуты, на погляд любога цвяроза разважаючага чалавека, на сто тысяч долараў. І ўвогуле, ці былі яны? Па-першае, як вядома, маральныя пакуты ў большасці выпадкаў не толькі кепска адбіваюцца на знешнім выглядзе, але і цягнуць парушэнні нервовай сістэмы, дрэнна ўплываюць на выніку працы. Выглядаў жа спадар Рыбакоў у судзе нармальна. Па-другое, праз некаторы час пасля той публікацыі Рыбакова павысілі ў пасадзе — ён стаў галавой Белтэлерадыёкампаніі. Па-трэцяе, калі маральныя пакуты Рыбакова былі такімі ж сур'ёзнымі, як і сума, агучаная ў зале суда, значыць, ён як мінімум павінен быў звярнуцца да доктара. Але ніякіх дакументаў і рэцэптаў суду Рыбакоў не прадставіў.

Каб больш сур'ёзна падрыхтавацца да працэсу, галоўны рэдактар газеты "Народная воля" І.Сярэдзіч, агляльнік М.Коктыш і былая тэлевядучая Э.Язерская папрасілі суддзю перанесці судовае пасяджэнне і прадаставіць ім час на заключэнне дамоўленасці і правядзенне кансультацый з адвакатамі. У заяўленых хадайніцтвах суддзя адмовіў. Больш за тое, у гэты дзень галоўны рэдактар "Народнай волі" накіроўваўся ў камандзіроўку ў Польшчу. Аднак і гэтую акалічнасць суддзя палічыў несур'ёзнай.

Адхіліўшы адпаведныя хадайніцтвы, ён прыступіў да разгляду справы **без Сярэдзіча і без адвакатаў.** М.Коктыш і Э.Язерская былі бяссільныя пераканаць суддзю ў тым, што па Канстытуцыі ўсе яны маюць права на юрыдычную дапамогу і хочуць мець адвакацкую падтрымку.

Калі суддзя пакінуў без увагі просьбы адказчыкаў наконт юрыдычнай падтрымкі, яны ў знак пратэсту пакінулі залу пасяджэнняў. "Народная воля", якая прытрымліваецца прынцыпаў дэмакратыі, не магла дапусціць, каб суд ператварыўся ў судзілішча.

У адсутнасці адказчыкаў справу разглядзелі за пару гадзін. Суд вырашыў *прызнаць звесткі, апублікаваныя ў заметцы "Пять пудов любви я гарантирую", не адпавядаючымі рэчаіснасці, якія ганьбяць гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю Рыбакова. Абавязаць УП "Народная воля" апублікаваць абвяржэнне гэтых звестак шляхам выкладання рэзалюцыйнай часткі рашэння суда ў газеце "Народная воля". А таксама ўтрымаць з выдавецкага прыватнага унітарнага прадпрыемства "Народная воля" на карысць Рыбакова маральную шкоду ў памеры 10 000 000 рублёў, з Коктыш і Язерскай — па 1 000 000 з кожнай.*

(Невялікі штрых: прадстаўнік Рыбакова, чалавек з юрыдычнай адукацыяй, заявіў у судзе — я, маўляў, не магу растлумачыць, чым кіраваўся Рыбакоў, вызначаючы суму кампенсацыі. І тут "абгрунтаванне" знайшоў суд — высокая пасада істца. Хоць па Канстытуцыі перад законам, а значыць, і судамі ўсе роўныя).

Аднак Рыбакова вызначаны судом памер спагнання не задаволіў. І ён напісаў касацыйную скаргу...

Заўважым, у якасці кампенсацыі маральнай шкоды ён запатрабаваў каля ста тысяч долараў з "Народнай волі" і амаль па дзесяць тысяч — з журналістаў. Тыя, чые дзеці загінулі на Нямізе, да нядаўняга часу прасілі кампенсаваць ім страту блізкіх людзей прыблізна ў такім жа памеры. Аднак беларускі суд адхіліў іх іскі.

"Народная воля", Коктыш і Язерская ў сваю чаргу таксама падалі касацыйную скаргу з просьбай увогуле адхіліць іск Рыбакова.

Не застаўся абыякавым да судовага працэсу і наступнага рашэння пракурор Ленінскага раёна Мінска, старшы дарадчык юстыцыі **Аляксей СТУК**. Ён напісаў касацыйны пратэст на рашэнне суда Ленінскага раёна. Не ведаем толькі, па якіх прычынах пазней гарадская пракуратура адмовілася ад яго касацыйнага пратэсту.

## Суд другі

Скажам шчыра: абвяшчэнне рашэння трох суддзяў Мінскага гарадскога суда шакіравала ўсіх намнога больш, чым вердыкт суддзі С.Хрыпача. Але аб усім па чарзе.

Зачытаўшы ўсе касацыйныя скаргі і пракурорскі пратэст, суддзя **Наталля ЖУПІКАВА** задала некалькі дзяжурных пытанняў Коктыш, Язерскай і Сярэдзічу.

У падтрымку Элеаноры Язерскай і "Народнай волі" некаторыя супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі напісалі ліст, у якім распавялі аб складанай маральна-псіхалагічнай абстаноўцы, якая панавала на тэлебачанні ў 2001 годзе. Гэты ліст напярэдадні быў дастаўлены ў Мінскі гарадскі суд, і аб ім не маглі не ведаць суддзі, на долю якіх выпала разглядаць касацыйныя скаргі. У ім, у прыватнасці, ёсць эпізод, на які суддзям належала бы звярнуць увагу. Напрыклад (*даем на мове арыгінала.* — **Рэд.**): **"Отстранение от эфира без всяких аргументированных объяснений со стороны руководства, по наблюдениям коллег, Юля Космачева восприняла как трагедию. Финалом стало самоубийство молодой женщины, которое подавляющее большинство телевизионщиков восприняло как следствие негуманного отношения к ней администрации БТ, и в первую очередь Егора Рыбакова"**. І гэта толькі адзін з многіх фрагментаў дакумента, пад якім стаяць подпісы тых, хто працаваў у той час на БТ. Суддзі чамусьці аб гэтым лісце нават не прыгадалі.

Хвілін праз трыццаць пяць пасля пачатку слуханняў у залу неяк дзіўна ўвайшоў галоўны юрысконсульт Белтэлерадыёкампаніі **Вячаслаў ІВАНОЎ**. Суддзі недаўменна пераглянуліся паміж сабой, але дазволілі яму застацца. Праз пару хвілін хтосьці з прысутных абурана вымавіў: "Тут моцна запахла перагарам!" Суддзі, пашаптаўшыся паміж сабой, папрасілі сп. Іванова выйсці, спаслаўшыся на тое, што разгляд справы блізіцца да заканчэння, а яму належала прыходзіць своечасова.

Пракурор гарадской пракуратуры (да жалю, яна не назвалася) не падтрымала касацыйны пратэст свайго калегі Аляксея Стука. Яна заявіла, што ўсё было законна, і Ленінскі суд у адносінах да "Народнай волі", Коктыш і Язерскай вынес правільнае рашэнне.

Што ж, нячаста бывае, каб вышэйстаячая пракуратура адмяняла пратэст ніжэйстаячай. Асабліва, калі гаворка ідзе пра нескладаныя рэчы. Не будзем гадаць, чаму ў дадзеным выпадку так здарылася.

Калі суддзя Жупікава зачытала рашэнне судовай калегіі, у зале пачуліся абураныя крыкі... У галоўнага рэдактара "Народнай волі" не хапіла сіл нават паглядзець суддзям у вочы. На яго твары чыталася: Божа, што робіцца?

## Іван ківае на Пятра

А цяпер, шаноўныя чытачы, вяртаемся да ўчарашняга пасяджэння калегіі Вярхоўнага суда. Ягор Рыбакоў, які ўжо працяглы час утрымліваецца ў СІЗА і якому, калі верыць папярэдняй інфармацыі ведамства В.Шэймана, ставяцца ў віну крымінальныя грахі надзвычайнай цяжкасці, не меў магчымасці прысутнічаць у зале суда. Не было і яго адвакатаў. З нашага боку абарона лёгка справілася са сваімі абавязкамі. На любое пытанне суддзяў даваліся вычэрпныя, пераканаўчыя адказы. Але нас адразу насцярожыў пратэст, з якім у судовую калегію звярнуўся намеснік старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь В.Вышкевіч.

Вось вытрымка з яго (далей на мове арыгінала. — **Рэд.**):

*"Определение судебной коллегии по гражданским делам Минского городского суда от 17 ноября 2003 г. в части увеличения размера компенсации морального вреда, подлежащего взысканию с Коктыш М.Г. и Езерской Э.А. в пользу истца,* ***нельзя признать законным и обоснованным, судебное постановление в этой части следует изменить, исходя из следующего.***

*В соответствии с разъяснениями, содержащимися в пункте 20 постановления Пленума Верховного Суда Республики Беларусь от 23 декабря 1999 г. "О практике рассмотрения судами гражданских дел о защите чести, достоинства и деловой репутации", при определении размера компенсации морального вреда* ***следует учитывать характер причиненных истцу нравственных страданий,*** *которые оцениваются судом с учетом фактических обстоятельств причинения морального вреда и индивидуальных особенностей истца. При определении размера компенсации морального вреда, причиненного гражданином, суд может учесть его имущественное положение. Во всех случаях при определении размера компенсации морального вреда суды должны учитывать требования разумности и справедливости (п.2 ст.970 ГК).*

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**ЭКСКЛЮЗИВ**

### *Геннадий НОВИЦКИЙ:*

# «Я не рыбак и не картежник...»

*Председатель Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь Геннадий НОВИЦКИЙ выбирает здоровый образ жизни.*

*Не пьет. Не курит. Катается на велосипеде и лыжероллерах.*

*Утверждает, что уборка дома — это тоже своего рода физкультура.*

*Геннадий Васильевич признается, что активный образ жизни помогает ему сохранять не только тонус, но и высокий служебный статус.*

*В интервью "Народной воле" Геннадий Новицкий делится секретами покорения карьерных вершин.*

— По натуре я не политик, — говорит Геннадий Новицкий. — Я хозяйственник. Я не могу сказать, что человек, который прошел путь до премьер-министра, не политиком уже быть не может. Все зависит от природы человека. Кто-то действительно стремится стать политиком. Я не стремился и не мечтал о такой карьере. Я всегда хотел быть хорошим хозяйственником. Но судьба так распорядилась...

Клянусь, что у меня никогда не было амбиций с точки зрения карьеры, высоких должностей. Я всегда старался выполнять задачи, которые на меня возложены, опираясь на опытных руководителей и собственную теоретическую подготовку.

Я изучал науку управления. Есть хорошее правило: всегда старайся быть как бы на ранг выше. Если ты заместитель — работай как первое лицо. Считай, что за твоей спиной никого нет, что ответственность нельзя переложить на плечи начальника. Ты сам в ответе за все.

Я не стремлюсь быть на виду. Просто честно делаю свое дело. Может, кому-то мои мысли покажутся странными, но я действительно такой...

**— Некоторые отмечают, что нынешняя должность положительно сказалась на Вашем внешнем виде. Вы стали менее напряженным, чаще улыбаетесь. Председателем Совета Республики работать проще, чем премьер-министром?**

— У меня был определенный период в жизни, когда я решил поменять работу, потому что из-за нее ни семьи, ни жены, ни детей не видел. А потом мы вместе с женой пришли к выводу, что проблема не в должности, а в характере. Моя сегодняшняя должность действительно может позволять меньше работать и даже делать видимость, что ты работаешь. Но это уже, на мой взгляд, вопрос стиля жизни...

Так сложилось, что я не рыбак, не охотник, не картежник. Я искренне говорю. У меня единственное хобби в жизни — это работа, карьера (в хорошем понимании этого слова). Я практически никогда не работал в законодательной области, но сейчас вник в эту тему настолько, что для самого неожиданно оказалось интересно. Мой предыдущий опыт очень востребован здесь. Почему? Потому что, когда принимаешь, пишешь законы, особенно важно знать жизнь. Надо знать, чувствовать, предвидеть, как закон ляжет на жизнь и что необходимо предпринять, чтобы законы действительно работали.

**— А хорошо ли Вы знаете жизнь простых людей? Часто ли общаетесь с народом? Например, многие министры жалуются, что из-за обилия совещаний и бумажной волокиты времени на это не остается...**

— Я всегда общался с простыми людьми. Сейчас, например, часто выезжаю в сельские и поселковые советы. Кстати, эта ниша у нас из центра никем не взята. Вы знаете, что, по Конституции, если советы любого уровня принимают решения, противоречащие закону, то Совет Республики вправе их отменять... Должен заметить, что я с большим интересом изучаю и знакомлюсь с работой в регионах и пытаюсь вместе с местной властью искать пути решения каких-то проблем прежде всего в законодательной сфере: налоги, бюджетное обеспечение...

**— Ваш предшественник Александр Войтович признает, что, будучи третьим лицом в государстве, он мало на что мог существенно повлиять. Зачастую его мнение вообще игнорировали. Вы с этим сталкиваетесь?**

— Подобные проблемы есть в любом обществе. Я это от сердца говорю, очень искренне... Например, недавно в качестве наблюдателя я был приглашен на заседание ассоциации верхних палат сената европейских стран. Я уже не в первый раз в сенате Польши, все больше и больше узнаю, как они работают... В любом обществе, особенно высокоразвитом, один человек, даже если имеет высокую должность, никак не может на все влиять. Смысл демократии состоит в том, что любые решения проводятся в жизнь через обсуждения, через дебаты, через споры...

**— Но в Беларуси такого нет. В Палате представителей десяток депутатов пытается спорить. В Совете Республики, как правило, всеобщий одобрямс...**

— Все может быть либо в гипертрофированных формах, либо... Где-то золотая середина должна быть. Но это вопрос философский...

Мы же договаривались о политике не говорить!..

**— Как собираетесь проводить отпуск?**

— Не думал пока об этом. В последнее время я вообще мало отдыхал.

**— А выглядите как раз отдохнувшим.**

— Это потому, что я веду полноценный здоровый образ жизни. Я жаворонок. Встаю очень рано. Иногда в пять-шесть, а иногда и в четыре утра. Никогда не злоупотреблял спиртными напитками, а в последние годы вообще не употребляю. На любом приеме могу лишь пригубить сухое вино — не более того. Не перегружаюсь и едой.

**— Отдаете предпочтение раздельному питанию?**

— Я не сторонник крайностей, в том числе и в этой сфере. Я знаю основные принципы раздельного питания. И стараюсь есть мясо с овощами. Но могу съесть и картошку с мясом, и ничего страшного в этом не вижу. Главное, чтобы все было в меру.

Поскольку у меня сидячая работа, стараюсь нагружаться физически. Никогда в жизни не занимался большим спортом, но всегда занимался физкультурой. В частности, мне импонирует ходьба, переходящая на размашистый шаг. В последнее время стал бегать трусцой. Езжу на велосипеде, велотренажере, иногда на лыжероллерах. Каждое утро делаю специальную гимнастику на укрепление основных групп мышц. В выходные несколько часов обязательно уделяю физической нагрузке. Но кроме этого есть и другая физическая нагрузка — например, уборка дома.

**— Вы занимаетесь уборкой?!**

— А почему нет? Это всегда было. Правда, в бытность премьером чуть в меньшей степени, но это по объективным причинам. С пылесосом ходишь, думаешь о чем-то...

**Марина КОКТЫШ.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# В свой юбилей Сергей Журавель выйдет на сцену

*Сегодня известному актеру исполняется 50 лет*



**На фото:** *Сергей Журавель с любимой женщиной Ольгой Калабан.*

Сергею никогда не дашь его возраст. Он говорит, что специально ничего не делает, чтобы выглядеть моложе. "Наверное, это гены, — поясняет он. — Моему отцу тоже всегда давали лет на 10 меньше".

Журавель признается, что не подводил промежуточные итоги, не анализировал, что значат для него 50 лет. Он замечает, что сегодня у него есть главное: любимая работа, любимая женщина и взрослый сын. Живы его родители — и это тоже счастье.

Сегодня смело можно сказать, что в театре выбирают не его, а он. В кино для Журавля важен процесс, поэтому большое значение имеет то, какой режиссер предложил роль.

Есть в жизни актера еще одно давнее занятие — работа на "Альфа-радио".

"В молодости я был подвержен самокритике, — говорит Сергей. — Каждый раз, когда выходил на сцену, волновался, понравлюсь ли зрителям, что скажут знакомые о моей работе. Это были какие-то юношеские желания производить на всех хорошее впечатление. А потом я пришел к выводу, что сомнение в себе — главный враг мужчины. И зачастую оно не оправдано. Думаю, с этим связан и так называемый кризис среднего возраста. Чем быстрее мужчина победит в себе сомнение, тем будет лучше. Ему будет комфортнее..."

В свой юбилей Сергей выйдет на сцену в роли цензора в премьерном спектакле Молодежного театра "Академия смеха". Коллеги поздравят Журавля прямо в театре. Праздничного домашнего ужина 1 июня не будет. Возможно, торжества состоятся в выходные дни. Но Сергей пока не определился, где лучше отпраздновать 50-летие.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

*Интервью с актером читайте в ближайших номерах "Народной воли" на полосе "Сямейнае кола".*

ПУЛЬС

## МАЗ адправіў у Кемерава першую партыю аўтобусаў

Мінскі аўтамабільны завод адправіў у Кемерава (Расія) першую партыю з 5 гарадскіх сучлененых аўтобусаў асабліва вялікага класа "МАЗ-105" умяшчальнасцю больш за 160 чалавек кожны. Зараз рыхтуецца да адпраўкі другая партыя з 6 аўтобусаў.

Гэты кантракт — толькі пачатак супрацоўніцтва беларускага прадпрыемства з кемераўскімі спажыўцамі. Ужо на працягу гэтага года Кемерава плануе ажыццявіць значныя закупкі аўтобусаў "МАЗ".

## У Расію і Вялікабрытанію

Беларусь па выніках першага квартала 2004 года экспартавала тавараў на 2 млрд. 857,2 млн. долараў, што на 26,7 працэнта перавышае паказчык аналагічнага перыяду мінулага года. Найбольш высокі аб'ём паставак прадукцыі ажыццёўлены ў Расійскую Федэрацыю — 1 млрд. 325 млн. долараў. Другім найбуйнейшым гандлёвым партнёрам Беларусі сярод дзяржаў СНД з'яўляецца Украіна, куды ў першым квартале экспартавана тавараў на 108,8 млн. долараў.

Сярод краін далёкага замежжа найбольш актыўны гандаль вёўся з Вялікабрытаніяй. Аб'ём беларускага экспарту ў гэтую краіну дасягнуў 284,1 млн. долараў. На 148,9 млн. долараў узраслі пастаўкі ў Польшчу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## За спробу даць хабар

Супрацоўнікі Упраўлення КДБ па Віцебскай вобласці сумесна з Шумілінскім РАУС затрымалі індывідуальнага прадпрымальніка з Наваполацка, 1968 года нараджэння. Ён падазраецца ў тым, што спрабаваў даць хабар (50 долараў ЗША і 200 тысяч рублёў) супрацоўніку міліцыі. Гэтыя грошы меліся быць платай за бесперашкодны пропуск аўтамабіля "Мерседэс" з аргтэхнікай, што належала прадпрымальніку, коштам каля 17 тысяч долараў ЗША. Груз перавозіўся з парушэннямі заканадаўства.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Падазраецца ў крадзяжы звыш 23 мільёнаў рублёў

Беларускай транспартнай пракуратурай заведзена крымінальная справа па арт. 210 ч. 4 "Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі" Крымінальнага кодэкса ў дачыненні да 29-гадовай жанчыны, галоўнага бухгалтара ТАА "Макбел" (Мінск).

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі, падазроная на працягу студзеня—сакавіка 2003 года, ажыццяўляючы прыём грашовых сродкаў і здачу іх у адзін з філіялаў ААТ "Белінвестбанк", шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і падробкі дакументаў учыніла крадзеж грашовых сродкаў на суму больш як 23 мільёны рублёў, што належалі прадпрыемству.

Крымінальная справа заведзена на падставе матэрыялаў упраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ЗЕРКАЛО

# Грязные избирательные технологии — белорусский вариант

Как известно, белорусское избирательное законодательство содержит целую массу финансово-технических, назовем их так, ограничений для кандидатов, вознамерившихся стать депутатами или, что еще хуже, президентом страны. Контроль соблюдения этих норм — святая обязанность Центризбиркома. И уже известно много случаев снятия претендентов с дистанции именно по причинам их нарушения (превышение выделенных расходов или появление неучтенной печатной продукции и т.п.). Что ж, "закон суров, но он закон!", как говорили древние римляне.

Однако практика показывает, что свои полномочия ЦИК использует весьма избирательно, лишь в отношении противников режима, не обращая внимания на аналогичные нарушения закона со стороны представителей власти. Об этом, в частности, можно судить по последней президентской кампании, завершившейся, как было объявлено, "элегантной победой" нынешнего главы государства. Как показывают данные официальной статистики, действия властей по обеспечению этой победы можно рассматривать как прямой подкуп избирателей, а президенту, как главе этой власти, следовало бы предъявить обвинения в использовании служебного положения в корыстных целях. На рис. 1 представлена динамика некоторых социально-экономических показателей в 2001 г., которая показывает, что непосредственно к моменту голосования в социальную сферу были предприняты массированные бюджетные вливания.

**Рис. 1. Динамика некоторых социально-экономических показателей в 2001 г.**




Чтобы упростить восприятие, показатели приведены к сентябрю 2001 г. — месяцу, в котором состоялось голосование. Для исключения влияния инфляции белорусской денежной единицы и роста цен, минимальный потребительский бюджет (МПБ) рассчитан в долларах США, а заработная плата и пенсия выражены в МПБ.

Поскольку "потребительская корзинка" в 2001 г. не пересматривалась, то динамика МПБ показывает чистый рост цен в долларовом эквиваленте. Как можно заметить, на фоне общего годового роста с июня 2001 г. стало наблюдаться, наоборот, снижение цен, завершившееся как раз в сентябре. А в октябре цены взлетели вновь, причем такими темпами, чтобы наверстать "упущенное" за период их сдерживания.

Стремительный рост реальных доходов населения (зарплат и пенсий) также наблюдался только до момента голосования (то, что пик реальных заработков пришелся на август, ничего не меняет, так как в отличие от пенсий зарплаты в текущем месяце выплачиваются за прошлый). Далее начался резкий спад, поскольку надобность в поддержке избирателей отпала.

Такие действия властей следует назвать своим именем — "грязные избирательные технологии". О них официальные СМИ сообщают, например, в применении к России, где разные выборы идут почти непрерывно. Там эти технологии чаще всего имеют вид заведомо ложной информации, дискредитирующей политических оппонентов. Однако перечень грязных технологий гораздо обширнее, о чем свидетельствует, например, российское законодательство о выборах в Государственную думу начала прошлого века. В нем содержались, в частности, нормы, запрещавшие правительству применять любые финансовые меры, которые могли быть истолкованы как подкуп избирателей.

Что касается белорусского избирательного права, то наши власти неоднократно заявляли о его полном соответствии "мировым стандартам" и, естественно, в отсутствии необходимости что-либо в нем менять. Однако, судя по приведенной информации, с ним далеко не все благополучно. Нет, конечно, по отношению к политическим оппонентам А. Лукашенко все как раз таки обстоит прекрасно: тут тебе и ограничение источников средств и расходов на избирательную кампанию, и объемов печатной продукции, и нормы "справедливого" выделения каждому кандидату нескольких минут эфира на местном радио в ночное время и т.п. Но в отношении использования действующим президентом государственного бюджета для получения электоральных преимуществ в Избирательном кодексе ничего не сказано. Президента, понятно, это устраивает, а назначенные им ЦИК или парламент конфликтовать со своим работодателем вряд ли будут.

Для сравнения рассмотрим динамику этих же показателей в 2000 г., когда состоялись выборы в нижнюю палату парламента (рис. 2).

**Рис. 2. Динамика некоторых социально-экономических показателей в 2000 г.**




Как можно видеть, никаких финансово-экономических мер, которые могли бы способствовать победе определенных кандидатов в депутаты, власти не применяли. Так, цены весь год перманентно росли, вне всякой связи с моментом голосования. Колебание размеров заработков в течение года также не указывает на наличие связи с октябрьским голосованием — перед ним, в сентябре, они даже несколько упали. Что касается пенсий, то они к периоду голосования несколько месяцев подряд снижались. Отсюда следует, что бюджетные вливания осуществляются только в период мероприятий, имеющих принципиальное значение лично для президента. Парламентские кампании таковыми до сих пор, видимо, не являлись.

Как известно, осенью предстоят очередные парламентские выборы. Одновременно в обществе активно обсуждается проблема третьего президентского срока, заинтересованность в котором не отрицает и сам А. Г. Казалось бы, это разные вещи, тем не менее многие эксперты полагают, что одновременно с выборами будет проведен референдум по изменению Конституции. Сегодня еще рано говорить о проявлении каких-либо тенденций, однако к осени поведение экономических индикаторов может достаточно надежно свидетельствовать о намерениях властей.

**А.СОСНОВ,**
**кандидат экономических наук,**
**НИСЭПИ.**

# Хто «заказаў» «Народную волю»?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

*Принимая решение об увеличении размера денежной компенсации морального вреда, подлежащей взысканию с Коктыш М.Г. и Езерской Э.А. в пользу истца, суд кассационной инстанции в достаточной степени не исследовал вопрос об имущественном положении указанных ответчиков, свои выводы в этой части не мотивировал.*

*При таких обстоятельствах с выводами в определении судебной коллегии об увеличении размера денежной компенсации морального вреда, подлежащей взысканию в пользу Рыбакова Е.В. с Коктыш М.Г. и Езерской Э.А. с 1.000.000 руб. до 3.000.000 руб. с каждой, согласиться нельзя.*

*Определение судебной коллегии в этой части подлежит отмене, а решение суда Ленинского района г.Минска от 26 сентября 2003 г. о взыскании с Коктыш М.Г. и Езерской Э.А. в пользу Рыбакова Е.В. денежной компенсации морального вреда в размере 1.000.000 руб. с каждой — оставлению в силе".*

Як бачыце, ні слова пра УП "Народная воля". І калегія пры абвяшчэнні рашэння — таксама ні слова пра "Народную волю". Дарэчы, як і пра грубейшыя парушэнні працэсуальных норм з боку судоў ніжэйшых інстанцый. Атрымліваецца, што судовая калегія Вярхоўнага суда засталася глухой, абыякавай у адносінах да парушэння яго вялікасці Закона. Калі афіцыйная частка пасяджэння як быццам закончылася, з вуснаў аднаго з суддзяў вырвалася: рашэнне — у межах пратэсту.

Знаёмы прыём: Іван ківае на Пятра.

А на каго будзе ківаць Пётр?

Мы маем на ўвазе старшыню Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь спадара В.Сукалу, да якога мы абавязкова звернемся ў бліжэйшыя дні.

Няўжо і на самай справе нехта "заказаў" "Народную волю"?

Калі такі чалавек існуе ў рэальнасці, адкажам:

— "Народная воля" будзе выдавацца, пакуль будзе жыць на гэтай зямлі хоць адзін яе супрацоўнік.

**Марына КОКТЫШ,**
**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**

# Прамова ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь заснавальніка і галоўнага рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча

Шаноўны Высокі суд!

Спадзяюся, што юрыдычны бок справы прафесійна патлумачаць адвакаты. Я хачу давесці да Вашага ведама наступнае.

У інтэрв'ю "Народнай волі" вядомая тэлевядучая Элеанора Язерская сказала: *"...Моя передача не выходит из-за трех человек..."*. І першым назвала сярод іх Рыбакова. *"На совести этих людей сегодня, говорят, не только смерть юной и талантливой Юли Космачевой, но и экс-председателя Валерия Скворцова"*.

Заўважце, у гэтых словах адсутнічае крымінальная афарбоўка. Язерская не сцвярджае, што спадар Рыбакоў некага забіў. У той жа час чалавек, які іграў не апошнюю, а, бадай, галоўную ролю ў фарміраванні маральна-псіхалагічнага клімату ў шматтысячным калектыве, не можа не несці адказнасці за тое, што адбылося ў Белтэлерадыёкампаніі. Я маю на ўвазе — маральнай адказнасці.

Паспрабую ў сувязі з гэтым крыху паразважаць. У першым выпадку гаворка ідзе пра суіцыд маладой рэжысёркі, а ў другім — пра нечаканую смерць старшыні Белтэлерадыёкампаніі, які толькі-толькі заступіў на гэтую высокую пасаду. Цяпер ні для каго не сакрэт, што людзі, якія, шкада, развіталіся з жыццём, спазналі падчас работы на белтэлебачанні вялікі дыскамфорт, а дакладней — тая атмасфера, якую стварыла ранейшае кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, да якога належаў і спадар Рыбакоў, не спрыяла нармальнай працы людзей, іх душэўнай раўнавазе. Гэта, дарэчы, сцвярджаецца і ў калектыўным лісце супрацоўнікаў тэлебачання, які маецца ў судовай справе. І жадаюць гэта прызнаваць ці не жадаюць тагачасныя кіраўнікі Белтэлерадыёкампаніі, але нездаровая маральна-псіхалагічная абстаноўка ў многім была створана іх дзеяннямі. Падкрэсліваю для Высокага суда: у адміністрацыйнай іерархіі спадар Рыбакоў займаў ключавую пазіцыю. Паколькі на пасадзе старшыні тэлерадыёкампаніі яго папярэднікі доўга не затрымліваліся, то ён, першы намеснік, у асноўным і вызначаў галоўныя правілы дзейнасці шматлікага калектыву. І, безумоўна, ён быў у адказе за ўсё, што адбывалася. Я ўпэўнены, што калі ў яго былі хоць рэшткі сумлення, то ён перажываў і за суіцыд Юлі Касмачовай, і за раптоўную, але, як перакананы многія супрацоўнікі БТ і блізкія сваякі, справакаваную менавіта адмоўным маральна-псіхалагічным кліматам смерць Валерыя Аляксандравіча Скварцова, і за многае іншае. Між іншым, пра тое, што сёння даводзіцца раскручваць следчым, першым даведаўся толькі што прызначаны на пасаду старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі спадар Скварцоў. І, як Вы ведаеце, не вытрымала сэрца!

Але вярнуся да тэзы наконт адказнай ролі кіраўніцтва любой арганізацыі, любой установы, любога ведамства. Ягор Рыбакоў — не шэраговы супрацоўнік БТ, ён з першага дня сваёй працоўнай дзейнасці ў Мінску знаходзіўся ў кіраўніцтве Белтэлерадыёкампаніі. І, вядома, быў у адказе за ўсё, што мела месца ў працоўным калектыве. Памятаеце, як аднойчы кіраўнік дзяржавы, адказваючы на вельмі непрыемнае пытанне — пра знікненне ў Беларусі вядомых палітыкаў, сказаў: **я, я нясу адказнасць за ўсё, што адбываецца ў краіне. Адсюль выцякае: кіраўнік арганізацыі ў адказе за ўсё, што адбываецца ў яго арганізацыі.**

Такім чынам, Высокі суд, калі я падпісваў у друк інтэрв'ю Элеаноры Язерскай, я ў першую чаргу ўлічваў, што ў яе словах, паўтараю, адсутнічае крымінальная афарбоўка. Яна не сцвярджае, што спадар Рыбакоў узяў рэвальвер і застрэліў Касмачову ці, скажам, Скварцова. Пра маральную адказнасць мела права гаварыць не толькі Язерская, і тут судовага пераследу не можа быць. Таму што ў інтэрв'ю, якое надрукавала "Народная воля", адсутнічае абраза спадара Рыбакова. Шчырае, адкрытае выказванне папулярнай у свой час тэлевядучай Элеаноры Аркадзьеўны Язерскай не прычыніла шкоды гонару і прафесійнай годнасці Ягора Рыбакова. Усім вядома, што літаральна праз некалькі тыдняў пасля публікацыі кіраўнік дзяржавы прызначыў яго старшынёй Белдзяржтэлерадыёкампаніі.

Паважаная судовая калегія! Я магу падзяліцца многімі іншымі аб'ектыўнымі разважаннямі. Але справа мае настолькі гучны характар, што аб многім Вы ведаеце самі.

Звярну ўвагу яшчэ толькі на збег некаторых акалічнасцяў па часе. За 35 гадоў журналісцкай практыкі не магу прывесці прыклад, каб чалавек звярнуўся ў суд з іскам аб абароне гонару і годнасці праз два гады. Звычайна гэта робіцца так: сёння газета надрукавала нейкі спрэчны матэрыял, а назаўтра яго герой ці героі ўжо скардзяцца. І ў абсалютнай большасці выпадкаў — усё развіваецца па сцэнарыі, прадугледжаным законам аб друку. Калі газета прызнае сваю памылку, яна друкуе абвяржэнне, прыносіць прабачэнне, калі не прызнае — пакідае за апанентам права звярнуцца ў суд. Падкрэсліваю, Высокі суд: спадар Рыбакоў адразу пасля публікацыі інтэрв'ю Элеаноры Язерскай не звярнуўся ні ў рэдакцыю, ні ў суд. Сказаць што ён, адзін з кіраўнікоў Белдзяржтэлерадыёкампаніі, не ведаў сваіх правоў, не чытаў закона аб друку, значыць, пакрывіць душой.

Мабыць, усё палягае ў іншай плоскасці. І хацелася б, каб Высокі суд улічыў тое, што я з вышыні свайго жыццёвага вопыту скажу напрыканцы выступлення ў гэтай судовай зале.

Спадар Рыбакоў звярнуўся ў суд з іскам да "Народнай волі", спадарынь Коктыш і Язерскай праз два гады. Звярнуўся тады, калі, як мне здаецца, адчуў, што ў адно месца клюнуў чырвоны певень — яго супрацьзаконнымі дзеяннямі пачала актыўна займацца генеральная пракуратура. Займаючы высокую пасаду і будучы наближаным да першых асоб дзяржавы, ён ухапіўся за іск да "Народнай волі", як за выратавальны круг: маўляў, не чапайце мяне, я зраблю ўсё, каб улада пазбавілася такога прынцыповага апанента, як масавая незалежная газета "Народная воля". Таму і памер грашовага спагнання быў вызначаны не 100 і не 200 тысяч рублёў, нават не мільён, а — 200 мільёнаў. Пры гэтым добра разумеючы, што такіх велізарных сродкаў рэдакцыя ніколі не знойдзе. Як і тое, што нашыя суды пры вызначэнні памераў грашовай кампенсацыі кіруюцца практыкай, калі чалавечыя жыцці ацэньваюцца выплатамі ў 2—3 тысячы ўмоўных адзінак. А Ягору Рыбакову, які сёння знаходзіцца за кратамі, падавай у 50 разоў болей! Нават калі зыходзіць з рашэння Мінскага гарадскога суда, то яго назваць інакш як расправай з "Народнай воляй" нельга.

Пралічыўся спадар Рыбакоў. За супрацьзаконныя дзеянні ён ужо нясе адказнасць, знаходзячыся каторы месяц у следчым ізалятары. **А ў сённяшняга Высокага суда ёсць усе падставы поўнасцю, падкрэсліваю — поўнасцю, апраўдаць як "Народную волю", так і Марыну Георгіеўну Коктыш, Элеанору Аркадзьеўну Язерскую.** Такім, толькі такім чынам калегія Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь зможа замацаваць станоўчы імідж адной з галін улады, які, на жаль, у апошнія гады пахіснуўся як на ўнутраным, так і на міжнародным узроўні.

Шаноўныя суддзі!

"Народная воля" патрэбна Беларусі, у тым ліку і яе ўладам. Калі Ваша рашэнне будзе аб'ектыўным, у адпаведнасці з літарай закона, а не пад уціскам пэўных сіл — Беларусь будзе Вам удзячна.

*31.05.2004 г.*

Калаж Алеся СІЛІЧА.

*Афіцыйныя паведамленні (на мове арыгіналаў) пра чалавека, гонар, годнасць і дзелавая рэпутацыя якога, згодна з вызначэннем судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь у складзе* ***Валерыя САМАЛЮКА, Мікалая БАБКОВА*** *і* ***Ганны САКАЛОЎСКАЙ****, каштуе 52 мільёны рублёў.*

## Шейман рассказал Лукашенко о Рыбакове и других делах

Александр Лукашенко 2 марта принял с отчетом Генерального прокурора Виктора Шеймана. Генпрокурор доложил главе государства о ходе расследования ряда уголовных дел, получивших большой общественный резонанс. В частности, республиканской прокуратурой продолжается следствие по уголовному делу в отношении бывшего председателя Белтелерадиокомпании Рыбакова. Ему предъявлено обвинение в получении взяток в крупном размере. Проверяются и иные действия обвиняемого, осуществленные против интересов службы. На данный период следствием у Рыбакова изъято свыше 100 тыс. долларов США, полученных им в результате противоправной деятельности.

## Бывшему руководителю БТ предъявлено обвинение в получении взятки

Бывшему председателю Национальной государственной телерадиокомпании Егору Рыбакову предъявлено официальное обвинение. Об этом "Интерфаксу" сообщили во вторник в пресс-центре прокуратуры Беларуси. Обвинение предъявлено в соответствии с частью 3 статьи 430 Уголовного кодекса — получение взятки лицом, занимающим ответственное положение.

В частности, уточнили в прокуратуре, данной статьей УК предусмотрено наказание в виде лишения свободы сроком от 7 до 15 лет с конфискацией или без конфискации имущества и лишение права занимать определенные должности.

Рыбаков был задержан 13 февраля, а 16 февраля арестован по решению заместителя генерального прокурора республики Виктора Пруса. Республиканская прокуратура возбудила уголовное дело в отношении Рыбакова — он подозревается в злоупотреблениях служебными полномочиями, хищениях и получении взяток от руководителей коммерческих структур за принятие благоприятных решений при заключении различных договоров.

*(Из прессы.)*

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Убил мать

*Рабочий КСУП "Совхоз Шарибовский", что в Буда-Кошелевском районе, 35-летний Валерий Бирюков любил прикладываться к чарке. А употребив не одну, поднимал руку на родную мать.*

Постоянные избиения женщины стали чем-то вроде ритуала пьяного язычника. Особенно участились побои в прошлом году. Мать стыдилась жаловаться, стараясь, как говорится, не выносить сор из избы. Напрасно — в один из вечеров сынок так набрался, что набросился на женщину, как лютый зверь.

Впоследствии судебно-медицинский эксперт насчитал на теле жертвы не менее ста (!) ударов. Кровоизлияние в мозг и разрывы печени привели к развитию шока тяжелой степени и наступлению смерти на месте происшествия.

Непутевый сын по приговору Гомельского областного суда отправлен на восемнадцать лет в исправительную колонию усиленного режима, где одновременно придется проходить курс принудительного лечения от хронического алкоголизма.

В конце концов, аккурат к предпенсионному возрасту преступник выйдет на свободу. Но на отпущение тяжкого греха — убийства матери — ему рассчитывать вряд ли можно...

СУД!

## За выбитый глаз пять лет тюрьмы

***Отношения тещи и зятя давно стали одной из любимых тем народных анекдотов. Но отнюдь не анекдотически закончилась поездка в семью дочери, проживающей в Светлогорске, пожилой женщины.***

Зять встретил ее в состоянии подпития. Впрочем, к тому времени брак его с дочерью приехавшей в гости тещи распался — злоупотреблял 40-летний Владимир Ксендзов всякой гадостью, способной возгораться от спички. Разве что ацетон с бензином еще не пробовал. У хозяина неожиданный визит вызвал не такую радостную реакцию, как у детских персонажей картины Репина "Не ждали".

По приезде скандала не получилось — он возник... в три часа ночи, когда экс-зять полез в холодильник за закусоном. В ответ на замечание выпивоха пустил в ход весь свой запас ненормативной лексики. Когда кладезь ругательств иссяк, хозяин ничего лучше не придумал, как ударить женщину в лицо... куском замороженного сала. В результате потерпевшая лишилась зрения на один глаз. А это уже криминал, и стандартными пятнадцатью сутками дважды судимому зятю отделаться не удалось.

Суд Светлогорского района за умышленное причинение тяжких телесных повреждений изолировал домашнего дебошира в исправительную колонию строгого режима на пять лет. По месту отбытия наказания ему предстоит пройти курс принудительного лечения от хронического алкоголизма.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

Народная Воля
1 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

СПОВЕДЗЬ

# Адпушчэнне грахоў

Зімовым надвячоркам я ішла ад сястры, што была замужам у нашай вёсцы, і ўбачыла на сваім падворку падводу. Конь, выпражаны і накрыты старым маміным кажухом, смачна хрумстаў з торбы авёс.

Не паспела ўзяцца за клямку, як з сяней выскачыла мама і, ні слова не кажучы, пацягнула мяне ў камору:

— Сваты да цябе, Маня, — зачыніўшы дзверы, шапнула яна. — Удавец з Лазян. Я яго ведаю. Жонка летась памерла. Ёсць дзяўчынка гадкоў дванаццаці. Чалавек ён добры, гаспадарлівы, не п'е. Але што дзяўчынка... Глядзі сама, Маня.

— А што тут глядзець? Быццам бы мне дваццаць, што яшчэ можна разважаць. Да сарака ў дзеўках дасядзела, ніхто, бачыш, не ўзяў. Тут не тое, што за ўдаўца, за чорта з рагамі пойдзеш.

— Старэйшы ён за цябе, — папярэдзіла мама.

— Нашмат?

— На семнаццаць гадоў. А дзіця малое, бо позна жаніўся.

— Пайду і за старэйшага.

Я была гатова ісці хоць за каго, бо да смерці надакучылі касыя погляды братавай. Ды і брат не быў у захапленні ад майго доўгага дзявоцтва. У іх ледзь не кожны год нараджаліся дзеці, і цяпер па хаце бегалі чацвёра жэўжыкаў, а братавая зноў хадзіла з вялікім жыватом. Тут і мама была лішняя, не тое, што я.

Удавец быў стары, але яшчэ моцны. Сярэдняга росту, каржакаваты, з чорнымі, ледзь кранутымі сівізной, валасамі. Карыя вочы пазіралі па-маладому задорна.

Я схадзіла па сястру з мужам, мама клікнула свайго брата з жонкай, і ў гэты ж вечар мяне сасваталі. Пачалі рыхтавацца да вяселля.

— Замуж замужам, Маня, але ж каб ты дзіця хоць глядзела. Сваіх не маючы, то не надта і чужое пашкадуеш, — не раз казала сястра.

— Што ты прычапілася з гэтым дзіцём? Дзяўчына ўжо мае дванаццаць гадоў. Умее ўсё рабіць па гаспадарцы. І ён, кажуць, працавіты. Я буду жыць паняю. Ды і сваё дзіцятка яшчэ, можа, нараджу. Што мне чужое.

Вяселле ладзілі праз месяц, недзе ў канцы лютага. Ён не хацеў ніякіх гуляў, але я настаяла. Адзела белую сукенку, вэлюм, усё як мае быць.

— От, смешыш людзей, — махнула рукой сястра, глянуўшы на мяне ў такім уборы. — Не было таго ў пару, то не трэба і цяпер.

— А мне і цяпер у пару. Як каму даводзіцца. Я першы раз замуж іду. Не ўдава, не разведзеная.

Калі мы прыехалі да шлюбу, то я была здзіўлена: майго мужа ведае ксёндз, называе яго па імені. Як абвянчаліся і выходзілі з касцёла, ён даў мне ў рукі кулёк з цукеркамі і пернікамі.

— Завязі ад мяне дзяўчынцы. І памятай: ты павінна замяніць ёй маці, інакш возьмеш на сябе вялікі грэх.

У Лазяны, да майго новага дома, мы прыехалі, калі ўжо сцямнела. Пад гукі гармоніка ўвайшлі ў хату, і я нібы спатыкнулася аб позірк дзяўчынкі, што стаяла ля печы. З яе вачэй каціліся слёзы. Усе навокал былі вясёлыя, а яна плакала.

— Нядобры знак, — шапнула я мужу.

— Ат, не зважай. Дзіця яшчэ. Ды і маці памятае. Усяго год мінуў, як з гэтага пакоя вынеслі яе труну, — і, раптам зразумеўшы, што сказаў не вельмі падыходзячыя словы, апусціў вочы і ціха прамовіў: "Даруй".

Потым, калі госці падвыпіўшы выйшлі на сярэдзіну хаты танцаваць, муж падвёў да мяне падчарыцу.

— Пазнаёмся, Яня, гэтая жанчына цяпер — мая новая жонка. Ты павінна яе паважаць і называць мамай.

Я аддала дзяўчынцы ксендзаў гасцінец. Яна ўзяла, падзякавала, але на бацькавы словы не адказала.

— Дык будзеш называць мамай? — перапытаў ён.

— Не. Мая мама памерла, і другой у мяне не будзе ніколі. З яе вачэй зноў пацяклі слёзы.

— Ідзі, потым пагаворым, — прамовіў незадаволены бацька.

Гаворка тая ні потым, ні праз потым ні да чаго не прывяла: дзяўчынка адмовілася называць мяне мамай. Звала проста: цётка Маня. Зыркала з-пад ілба чорнымі вачанятамі і ні ў якую гутарку са мной старалася не ўступаць. Адно шчасце: яна ўсё рабіла па гаспадарцы. Паводзіла сябе так, нібыта мяне ў хаце не было. Не грубіла, не капрызнічала, але і не ўсміхалася, ніколі не радавалася. Такая дванаццацігадовая бабулька.

За гэту недзіцячую самастойнасць і сур'ёзнасць я проста ўзненавідзела яе. Біць не біла, а папрокі сыпаліся на дзіцячую галаву, як зерне з дзіравага мяшка. Што б яна ні рабіла, што б ні сказала — усё мне не падабалася.

Я не старалася шукаць з ёй кантакту, а, наадварот, рабіла ўсё дзеля таго, каб і бацька яе ўзненавідзеў. Усякі раз уводзіла яму ў вушы, што дзяўчынка недарэка, не так робіць хатнюю работу, што калі ён не чуе, спрачаецца і лаецца са мной.

— Чаму ты яе не б'еш? Што з яе вырасце? — не раз казала, калі былі адзін на адзін. І ён пачаў біць дачку. Я бессаромна маніла пра непаслухмянасць і спрэчкі, а ён біў сваё дзіця смяротным боем.

Аднойчы нам трэба было пасвіць кароў. Я тады ўжо цяжарная хадзіла. Цяжарнасці той яшчэ не было бачна, але я баялася нават кубак з вадой падняць, лішні крок ступіць. Муж не даваў пылінцы на мяне сесці. Дык вось, падчарыца не ўстала раніцай гнаць статак.

— Мне жывот баліць, — прамовіла і адвярнулася да сцяны.

Муж павінен быў тэрмінова ехаць у райцэнтр, і пакуль ён вернецца, кароў пагнала я. Аж да палудня прабыла ў полі. А калі ён вярнуўся дадому, з гневам выгаварыла:

— Налупі гэту гультайку! Паўдня ў ложку правалялася. Хоць бы цыбулю прапалола, калі кароў пасвіць не хоча.

Муж схапіў рэмень, сцягнуў дачку з ложка і спаласаваў ёй скуру. Яна не прасілася, не плакала, але калі скончылася экзекуцыя, паволі пайшла да суседкі. Праз якія паўгадзіны мы ўбачылі, як сусед, падагнаўшы да дому падводу, на руках вынес дзяўчынку з хаты і паклаў на свежае сена.

— Што з ёй?! — з трывогай спытаў муж.

— Не памрэ, чорт яе не возьме! — выпаліла я...

У Яні лопнуў апендыцыт. Урачы ледзь яе выратавалі.

Пакуль падчарыца ляжала ў бальніцы, сусед афармляў дакументы, каб здаць яе ў школу-інтэрнат. Мы даведаліся пра гэта ад маёй сястры, якая спецыяльна прыйшла сказаць гэтую навіну.

— Як табе не сорамна, Маня? — дапытвалася яна. — Такі грэх, такі грэх! А пра цябе, швагер, я і казаць не хачу, але скажу: нелюдзь ты!

Адразу з бальніцы дзяўчынка паехала ў той інтэрнат, а мы з суседзямі перасталі размаўляць. Не паклікалі іх на хрэсьбіны, калі ў мяне нарадзіўся сын.

Мінулі гады. Сын вырас. Калі ён скончыў тэхнікум сувязі, памёр муж. Падчарыца закончыла медыцынскае вучылішча, выйшла замуж і жыла ў суседнім раёне.

Пасля смерці мужа ўсё ў маім жыцці пакацілася пад адхон. Сын спіўся, і замест аддзялення сувязі, дзе працаваў, апынуўся на калгаснай ферме, а потым на два гады загрымеў у лячэбна-працоўны прафілакторый, іншымі словамі — турму для алкаголікаў.

Памерла мая мама. Ад усяго перажытага мне пачалі моцна балець ногі. Аднойчы пералазіла праз парог і, зачапіўшыся, ўпала і стукнулася галавой аб падлогу. Доўга ляжала ў бальніцы і аднойчы адчула, што настаў час паміраць. Калі прыйшла наведаць сястра, я папрасіла, каб прывяла ксяндза. Паспавядацца.

— Пачакай, перш пазваню Яні. Як прыедзе, папрасі ў яе прабачэння. Толькі яна можа адпусціць твае страшныя грахі. Калі Яня даруе, тады паклічу ксяндза.

— А як не прыедзе?! — спалохалася я. — Што я ёй добрае зрабіла? Адно гора прынесла...

— Божа, можа, хоць перад смерцю да цябе дойдзе, што ты нарабіла ў гэтым жыцці? А колькі ж я табе казала, колькі папярэджвала, — закрыўшы далонямі твар загаласіла сястра.

Яня прыехала назаўтра. Павітаўшыся, паклала на бальнічную тумбачку апельсіны, цукеркі, паставіла слоік з кампотам.

Яна слухала мяне моўчкі, раз-пораз выціраючы з вачэй слёзы.

— Я паміраю, Янечка. Даруй мне за ўсё. Як даруеш ты, то даруе і Бог...

Яня кіўнула ў знак згоды галавой і выйшла з палаты...

Назаўтра я адчула сябе лепш настолькі, што сама села на ложку, а яшчэ праз некалькі дзён пачала хадзіць па палаце.

— Я ксяндза ўсё роўна паклічу, — прапанавала сястра.

— Не трэба. Выпішуся, сама схаджу да касцёла, — упэўнена сказала я. — І яшчэ: з'ездзім да натарыуса, я перапішу на Яню палову хаты. Палову на таго лайдака, што ад гарэлкі лечыцца, а палову на Яню. Яе ж бацькі будавалі. Грэх будзе, калі пасля маёй смерці ёй нічога не застанецца.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

СТОП-КАДР



*Напрыканцы мінулага тыдня пагранічнікі адзначылі сваё свята. Ветэраны пагранвойск, вядома ж, усклалі кветкі да помніка Ф.Дзяржынскаму ў Мінску. У цывілізаваным свеце ён лічыцца бальшавіцкім катам, а ў Беларусі — "Железным Феликсом".*

**Фота photo.bymedia.net**

## Вужа затрымалі, але адпусцілі

Вельмі страшнай змяёй падаўся жыхарцы шматпавярховага віцебскага дома невялікі вуж, нечакана знойдзены гаспадыняй у яе кватэры.

На тэлефонны выклік хуценька прыехалі моцныя хлопцы з мясцовага аварыйна-выратавальнага атрада "Віцязь".

Добра, што гаспадыня кватэры не памкнулася забіць самую бяскрыўдную змяю Беларусі, а ў выратавальнікаў хапіла розуму і адукацыі, каб асцярожна выцягнуць мірную істоту з-пад кухоннай шафы і адвезці ў бліжэйшы лес.

Навукоўцы Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны ўхвалілі байцоў "Віцязя" за спагадлівасць да рэптыліі і патлумачылі, што на мяжы вясны і лета, калі вужы прачынаюцца пасля доўгай спячкі, яны пакутуюць ад холаду і голаду, а таму вымушаны шукаць паратунку ў чалавечым жытле, відаць, спадзеючыся знайсці ў дамах цёплы куток і нейкую ежу, каб пратрымацца да надыходу лета.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**1**
**чэрвень**

**АЎТОРАК**
Усх. 4.45 Зах. 21.32
Даўж. дня 16.47
Поўня 3 чэрвеня

ПЕРАПІСКА

# Архітэктар — закладнік ідэалогіі

Шаноўны спадар Васілеўскі!

Гэты мой ліст — асабіста Вам, а не ў рэдакцыю. Прачытаўшы Ваш артыкул у "Народнай волі" за 6 мая "Вясна музеяў" у Мінску, я даведаўся аб выставе, прысвечанай архітэктару М.Бакланаву, за што Вам вялікае дзякуй. Але мне вельмі захацелася выказаць Вам маю нязгоду з Вашымі ацэнкамі творчасці гэтага архітэктара і тых часоў.

Вашыя ацэнкі і меркаванні абапіраюцца на шырока распаўсюджаны міф аб шырокіх магчымасцях і аднаасобнай адказнасці аўтара-архітэктара ў савецкіх і постсавецкіх варунках. Быццам бы праекты не абмяркоўваюцца, не ўзгадняюцца, не зацвярджаюцца, а са стала архітэктара адразу трапляюць на будоўлю.

Адзіным заказчыкам архітэктуры ў часы М.Бакланава была савецкая дзяржава ў асобе чыноўнікаў ад ідэалогіі. Усе пытанні архітэктурнага стылю вырашаліся ў Маскве. Да пастановы аб барацьбе з "архітэктурнымі празмернасцямі" адзіным магчымым стылем быў так званы "сацыялістычны рэалізм". На шчасце, асновай гэтага стылю была вялікая еўрапейская класіка з яе практыкай і вопытам некалькіх тысячагоддзяў. Гэта ўзбагаціла Беларусь хоць і пераймальнымі, але высокамастацкімі прыкладамі фарміравання гарадскога асяроддзя, бо трэба прызнацца, што наша краіна надзвычайна бедная на паўнавартасныя архітэктурныя аб'екты кожнага са стыляў. Да таго ж стыль на аснове класікі цалкам адпавядаў узроўню тэхнічнай базы будаўніцтва таго часу.

Ну а што такое бурнае будаўніцтва без апоры на лепшыя дасягненні архітэктуры мінулага, выразна прадэманстравалі наступныя дзесяцігоддзі, калі па новым загадзе з Масквы абавязковым стала выкарыстанне спрошчанай, даволі прымітыўнай архітэктурнай мовы. Нават пануючы ў нас сёння "еўрастыль" не дасягае ў мясцовым выкананні мастацкага ўзроўню архітэктуры Беларусі, створанай у 1946—1958 гадах.

Я ўпэўнены, што ацэньваць таго ці іншага архітэктара ва ўмовах таго часу варта не па тым, у якім стылі ён працаваў (ён фактычна выбару не меў), а па тым, наколькі па-майстэрску ён карыстаўся магчымасцямі і прыёмамі стылю — як ён валодаў кампазіцыяй, прапорцыямі, распрацоўкай дэталяў, адчуваў маштабнасць. Калі зыходзіць з гэтых крытэрыяў, творчасць М.Бакланава заслугоўвае толькі павагі.

На жаль, беларускае грамадства не прывучана да ўважлівага погляду на архітэктуру, да больш-менш глыбокіх яе ацэнак. СМІ вельмі прымітыўна падаюць гэтую тэму — у большасці гэта ўхваленне, часцяком перабольшанае, а зрэдку — крытыка з прысмакам скандалу.

Хацелі Вы гэтага ці не, у Вашых словах чуюцца папрокі да архітэктара Бакланава, якіх ён не заслужыў, адчуваецца зняважальнае адценне. Якія крокі ўбок ад канонаў ён баяўся зрабіць? І ў які бок? Я не зразумеў. Усё, што Міхаіл Іванавіч зрабіў для Беларусі, зроблена добра. Класічныя формы ён выкарыстоўваў без пампезнасці, памяркоўна і па-майстэрску. А ў Вас, на жаль, не знайшлося для яго ніводнага добразычлівага слова. Гэта, дарэчы, у чарговы раз працягвае прыкрую традыцыю непавагі да творчасці архітэктараў, падштурхоўвае іншых да працягу такога стылю гаворкі.

Вось такія думкі і пачуцці выклікала ў мяне публікацыя. Спадзяюся, што не пакрыўдзіў Вас гэтым "сеансам зваротнай сувязі".

З павагай —

**І.М.БАЙЦОЎ, архітэктар.**

# Скажи, Антон...

*Рубрику ведет Антон ЛЮБИЧ*

### Как скоро племянница получит эстонское гражданство?

***Моя племянница выходит замуж за эстонца. Хотелось бы узнать, как скоро она получит эстонское гражданство? Сможет ли она свободно перемещаться по Европейскому Союзу или для нее сохранится визовый режим?***

**Валентина МЕЛЬНИЧУК, Минск.**

Чтобы получить гражданство, вашей племяннице нужно будет прожить в браке со своим эстонским избранником не менее пяти лет, после чего она сможет ходатайствовать о получении эстонского гражданства.

Дополнительными условиями для получения эстонского гражданства являются:
1. знание эстонского языка;
2. знание Конституции Эстонской Республики и Закона о гражданстве;
3. наличие постоянного легального дохода;
4. лояльность по отношению к эстонскому государству;
5. принесение присяги установленного образца.

### Решил обратиться в суд

***Не могла бы ваша газета подсказать, как белорусскому гражданину обратиться в Европейский суд по правам человека?***

**Михаил САЛЬКОВ, Минск.**

Уважаемый Михаил! Белорусские граждане не имеют права обращаться в Европейский суд по правам человека, поскольку Беларусь не является членом Совета Европы. Единственная международная правовая организация, куда Вы можете обратиться, — это Комитет ООН по правам человека.

Для того, чтобы Ваша жалоба была рассмотрена, она должна удовлетворять следующим условиям:
1. Касаться только тех прав, которые предусмотрены в международных пактах.
2. Не должна быть анонимной.
3. До подачи заявления заявитель должен исчерпать все средства правовой защиты, предусмотренные национальным законодательством.

На решение Комитета национальные власти должны ответить в течение 6 месяцев.

За более подробной информацией обращайтесь в представительство ООН в Беларуси по адресу: **220050 г. Минск, ул. Кирова, 17. Тел. (017) 227-48-76, 227-81-49, 227-45-27, 227-38-17, факс 226-03-40.**

### Еще раз о централизованном тестировании

***Подскажите, принимаются ли результаты белорусского централизованного тестирования вузами России?***

**Марина АВДОТЬЕВА, Гомель.**

Марина, результаты белорусского централизованного тестирования вузами России не принимаются, но каждый белорусский школьник имеет право на платной основе пройти централизованное тестирование в России. Об условиях его проведения в Беларуси можно осведомиться в Министерстве образования Беларуси или в Республиканском институте контроля знаний. Тел. **(017) 226-51-59, 220-99-09.**

### Могу ли я получить пенсию без паспорта?

***У меня паспорт гражданина СССР образца 1974 года. На почте мне сказали, что больше по нему мне пенсию выплачивать не будут. Действительно ли, что я вовсе не смогу получить пенсию, или ее можно получить по какому-нибудь другому документу?***

**Константин ЖУРОМСКИЙ, Витебск.**

Константин Владимирович! Вам обязаны выплатить пенсию вне зависимости от того, есть у Вас паспорт образца 1996 года или нет. Наличие паспорта нового образца не является обязательным условием для получения пенсии. Главное, чтобы у Вас при себе был документ, удостоверяющий Вашу личность, а также пенсионное свидетельство. К документам, удостоверяющим личность, относятся военный билет (для военнослужащих, не имеющих паспорта), форма №9.

### Как защитить права потребителя?

***Скажите, какие права имеет потребитель в отношении обмена и замены товара, если обнаружены его дефекты? Обязан ли продавец удовлетворить требования покупателя?***

**Ольга ГАВРИЛЮК, Минск.**

Потребитель, которому продан товар ненадлежащего качества, если его недостатки не были оговорены продавцом, вправе по своему выбору потребовать замены недоброкачественного товара товаром надлежащего качества, или соразмерного уменьшения покупной цены товара, или незамедлительного безвозмездного устранения недостатков товара, или возмещения расходов по устранению недостатков товара. Потребитель вправе требовать замены технически сложного товара или дорогостоящего товара в случае обнаружения существенных недостатков товара (существенного нарушения требований к его качеству). Перечень таких технически сложных товаров утверждается правительством Республики Беларусь. В случае обнаружения недостатков товара, свойства которого не позволяют устранить эти недостатки (продовольственные товары, товары бытовой химии и т.п.), потребитель вправе по своему выбору потребовать замены такого товара товаром надлежащего качества либо соразмерного уменьшения покупной цены. Если покупатель не желает обменивать товар ненадлежащего качества, то он имеет право расторгнуть договор купли-продажи (ст.19 Закона РБ "О защите прав потребителя").

При расторжении договора розничной купли-продажи потребитель вправе требовать возврата уплаченной за товар денежной суммы, а также возмещения разницы между ценой товара, установленной договором, и ценой соответствующего товара на момент добровольного удовлетворения его требования, а если требование добровольно не удовлетворено — на момент вынесения судом решения (п.4 ст.25 указанного закона). При этом потребитель по требованию продавца и за его счет должен возвратить полученный товар ненадлежащего качества. При возврате потребителю уплаченной за товар денежной суммы продавец не вправе удерживать из нее сумму, на которую понизилась стоимость товара из-за полного или частичного использования товара, потери им товарного вида или других подобных обстоятельств.

Отсутствие у потребителя документа, подтверждающего факт покупки товара, не является основанием для отказа в удовлетворении его требований. Для подтверждения факта покупки товара могут использоваться свидетельские показания, элементы упаковочного материала (тары), на которых имеются отметки, подтверждающие, что покупка товара осуществлялась у данного продавца, а также документы и другие доказательства, указывающие на осуществление покупки товара у данного продавца.

Потребитель вправе предъявить предусмотренные статьей 19 Закона "О защите прав потребителя" требования продавцу или изготовителю в отношении недостатков товара в течение гарантийного срока или срока годности, установленных изготовителем. В отношении товаров, на которые гарантийные сроки или сроки годности не установлены либо гарантийные сроки составляют менее двух лет, потребитель вправе предъявить указанные требования, если недостатки обнаружены в течение двух лет со дня передачи их потребителю, а в отношении недвижимого имущества — в течение трех лет со дня передачи его потребителю, если более длительные сроки не установлены законодательством и (или) договором. Следует при этом помнить, что если потребитель лишен возможности использовать товар по обстоятельствам, зависящим от продавца, гарантийный срок не исчисляется до устранения продавцом таких обстоятельств. Если день устранения зависящих от продавца обстоятельств, вследствие которых потребитель не может использовать товар по назначению, определить невозможно, этот срок исчисляется со дня заключения договора розничной купли-продажи.

Требования потребителя о соразмерном уменьшении покупной цены товара ненадлежащего качества, возмещении расходов на устранение недостатков товара потребителем или третьим лицом, а также о возмещении убытков, причиненных потребителю расторжением договора розничной купли-продажи (возвратом товара ненадлежащего качества изготовителю), подлежат удовлетворению продавцом (изготовителем) незамедлительно. Максимальный срок для удовлетворения требований потребителя не может превышать семи дней со дня предъявления соответствующего требования, а при необходимости проведения экспертизы — четырнадцати дней (ст.23 указанного закона).

# У «Беларускім кнігазборы» — Васіль Быкаў

***Залатая кніжная серыя «Беларускі кнігазбор» папоўнілася чарговым томам. Гэта — «Выбраныя творы» Васіля Быкава. Кніга прымеркавана да яго 80-годдзя***

З усёй вялікай спадчыны народнага пісьменніка Беларусі ў том уключаны самыя значныя яго творы розных жанраў. Першы раздзел склалі аповесці "Трэцяя ракета", "Знак бяды" і "Аблава", якія яшчэ пры першай публікацыі сталі прыметнымі з'явамі ў нашым культурным жыцці.

Упершыню пад адной вокладкай сабраныя самыя лепшыя апавяданні і прыпавесці Васіля Быкава, якія склалі другі раздзел кнігі. Сярод іх — апавяданні як на традыцыйную для пісьменніка ваенную тэму ("Адна ноч"), так і на самыя надзённыя тэмы сучаснасці ("На Чорных лядах", "Жоўты пясочак", "Сцяна" і іншыя).

Вельмі цікавы раздзел публіцыстыкі пісьменніка. Тут чытач знойдзе надзвычай вострыя выступленні Васіля Быкава на пісьменніцкіх з'ездах, на І кангрэсе беларусістаў, праграмны артыкул "Мэты і сродкі".

Заканчваецца том аўтабіяграфічнай аповесцю Васіля Быкава "Доўгая дарога дадому", самыя значныя фрагменты з якой надзвычай ярка раскрываюць чалавечы і творчы воблік выдатнага пісьменніка.

Кнігу склаў і пракаментаваў творы Васіля Быкава пісьменнік, доктар філалагічных навук Міхась Тычына. У сваім грунтоўным артыкуле "Пад знакам Быкава" ён вельмі правільна заначае: "У нас ёсць Быкаў, і, значыцца, ёсць падставы для таго, каб ганарыцца сваёй Беларуссю. Быкаў ратуе нас ад прыніжэння і ганьбы, у якой мы сядзім, як у ваўчынай яме, саромеючыся, і небеспадстаўна, называцца ў цывілізаваным свеце, што мы беларусы. Эпоха, калі нам пашанцавала жыць, — гэта эпоха Быкава. Мы — нацыя Скарыны, Каліноўскага, Купалы, Быкава. Цяжка ўявіць пісьменніка, які б так маштабна і метадычна думаў пра лёс свайго народа, з такім трагічным напалам пачуцця перажываў бы за тое, што адбываецца ў вялікім свеце. Нездарма імя Быкава набыло еўрапейскую вядомасць". Эпіграфам да аднатомніка Васіля Быкава "Выбраныя творы" Міхась Тычына паставіў вельмі выразныя і сімвалічныя радкі з верша Рыгора Барадуліна:

*Будуць часам ідалы раструшчаны,*
*Свет разумны*
*стоміцца ад крыкаў.*
*Васільком у жыце Беларушчыны*
*Назаўсёды застанецца Быкаў!*

**Ніна КУДРЭЙКА.**

## Вторник, 1 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.35, 19.55** "Деловая жизнь".
**08.40** Поздравление министра образования Республики Беларусь А.М.Радькова в связи с окончанием школьных занятий и началом выпускных экзаменов.
**08.50** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы в общеобразовательных и специальных заведениях.
**09.05, 19.15 "Сага о Форсайтах".** Сериал.
**10.05, 20.00 "Сезон охоты".** Сериал.
**11.10, 17.25 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25 "Венок сонетов".** Кинопоэма.
**14.05** "Его история". Видеофильм АТН.
**14.15** "Одноклассники".
**15.10 "Десятое королевство".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.05** "Жажда жизни". Видеофильм. АТН.
**18.30** "Шпилька".
**19.05** "100 шагов к Олимпу".
**21.00** "Панорама".
**21.40** Футбол. Молодежный чемпионат Европы.
**23.35** "Дорога к Евро-2004".



**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Добро пожаловать, или Посторонним вход воспрещен".** Комедия.
**10.20** "Фабрика звезд-4".
**10.45** "Дисней-клуб".
**15.05** "Город женщин".
**16.05 "Берег мечты".** Сериал.
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.05 "Другая жизнь".** Сериал.
**22.10 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.25** "Не только о футболе".
**23.45** "Фабрика звезд-4".
**00.10** "На футболе".

**РОССИЯ**

**07.45, 21.00 "Команда "01". Огнеборцы".** Сериал.
**08.50** "Короткое замыкание". Ток-шоу.
**09.45, 18.50, 23.15** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 19.55 "Гражданин начальник".** Сериал.
**16.20 "Инструктор".** Сериал.
**17.20 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**18.20** "Кулагин и партнеры".
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**22.00** "Вести +".
**22.20** "КГБ. Легенды "Вымпела".
**23.30 "Взять живым или мертвым".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35, 22.05 "Свободная женщина-2".** Сериал.
**09.35** "Пой, душа!"
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.30, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 13.00** "Обычный необычный день".
**11.45 "Подкидыш".** Комедия.
**13.25** "Пора надежд". Док.фильм.
**14.10, 15.05** "Не зевай!".
**14.40 "Команда "SOS".** Сериал.
**15.15** "Бум". Тележурнал для школьников.
**15.45 "Алеша Птицын вырабатывает характер".** Худ.фильм.
**16.55** "Ностальжи".
**17.20 "Скандальное происшествие в Брикмилле".** Комедия.
**18.50 "Плач перепелки".** Сериал.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Их нравы".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40, 22.55 "Сыщики".** Сериал.
**19.45 "Бальзаковский возраст, или Все мужики — сво...".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.50 "Однажды в Калифорнии".** Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.40** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться...".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.40 "Убей или умри".** Боевик.
**11.15** "Черный ящик".
**11.45** "Пока горит свеча".
**12.15** "Час суда".
**13.00** "Дикая планета".
**13.50, 18.30 "Нина".** Сериал.
**14.50 "Мятежный дух".** Сериал.
**15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Сериал.
**16.00** Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Крутой Уокер".** Сериал.
**18.15** "Телеафиша".
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55 "Копи царя Соломона".** Приключенческий фильм.
**23.20** "Игровой рефлекс".
**23.30 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.15** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 17.00 Моссад".** Сериал.
**07.50, 17.50, 20.40** "Телемагазин".
**08.00 "Алые паруса".** Сказка.
**09.20, 21.00** "К-видео". "Топ-8".
**09.30** "Академия жизни".
**09.45, 19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**10.45, 21.10 "Красавчик Джо".** Мелодрама.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Вечный зов".** Сериал.
**19.10** "Палитра".
**19.40** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**08.00** "Газетный дождь".
**08.10 "Жили три холостяка".** Комедия.
**09.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Кинотавр". Детский сеанс".
**16.30** Мультфильм.
**17.15** "Очевидное — невероятное".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Возвращение Шерлока Холмса".** Сериал.
**21.40** "Тюрьма и воля". Ток-шоу.
**23.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал.
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Футбол. Матч Лиги чемпионов УЕФА.
**11.00** Футбол. Европолы.
**12.00** Футбол. "ЕВРО-2004".
**13.00, 21.00, 22.00** Теннис. Открытый чемпионат Франции.
**23.00** Бокс. Международные соревнования.
**00.00** Олимпийские игры. "Цель — Афины".
**00.30** Новости "Евроспорта".
**00.45** Автогонки НАСКАР.
**01.45** Автогонки ИНДИКАР.
**02.00** Футбол. История УЕФА.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 530 экз. Заказ № 658.